# Рыхтуйцеся да школы

Лета скончылася. Ня турбуюць больш думкі аб гаёх, балотах, дзе мы праводзілі так весела і вольна свой час, пасучы кароў, зьбіраючы ягады, грыбы, ці нават шмат хто і працуючы. Усе нашы думкі цяпер аб школе. У гарадох шмат дзе ўжо вучацца. У вёсках прыблізна толькі з 1-га кастрычніка ўсе вучні будуць ахоплены школай.

Але падрыхтавацца да спатканьня навучальнага году ня шкодзіць чым раней. Ды ня толькі самім трэба падрыхтавацца. Шмат ёсьць такіх дзяцей, якім трэба таксама дапамагчы: уцягнуць іх у школу, калі яны яшчэ ня вучыліся, выявіць прычыны, чаму ня ўсе дзеці вучацца, што можна зрабіць, каб усім ільга было вучыцца.

З гэтага году Савецкая ўлада пачынае праводзіць у жыцьцё даўно чаканы закон аб усеагульным навучаньні. Такое ўсеагульнае абавязковае навучаньне нельга было праводзіць дагэтуль таму, што не хапала належных сродкаў, школ і настаўнікаў. Але поруч з ростам багацьця ў краіне ранейшыя мары становяцца сапраўднасьцю. Мы хутка будзем вучыцца ўсе. Першыя спробы і першая праца ў гэтай галіне будзе праводзіцца з сёлетняга году ў Менскай акрузе.

Бязумоўна, тут будзе шмат перашкод, шмат непаразуменьняў. Мы маем і да гэтага часу яшчэ выпадкі, калі дзеці ня вучацца, таму што бацькі ня пускаюць іх, або зусім нядбайна адносяцца да гэтай справы. Калі папытаеш у іх—чаму не пасылаюць у школу дзяцей, адкажуць: „Ат, карысьць мне некая з яго навукі. Ня варта лапцей драць. Няхай на печы сядзіць“.

Вось гэткія нядбайныя адносіны, гэткія заявы не павінны мець месца ў нашай краіне. Наша піонэрская організацыя і ўсе школьнікі павінны шчыра ўзяцца за працу ў напрамку агітацыі і выяўленьня мажлівасьці вучыцца ўсім. Трэба цяпер ужо разам з ячэйкай і настаўнікамі дакладна абгаварыць гэта пытаньне. Трэба сабраць тых сялян і сялянак, якія яшчэ не зразумелі ролі навукі, і дабіцца таго, каб яны ўцямілі ў чым сутнасьць усеагульнага абавязковага навучаньня, для чаго гэта нам патрэбна. Ніякіх скандалаў, ніякіх непаразуменьняў у вашай вёсцы з-за школы не павінна быць. Усю ўвагу, усю працу і энэргію—выяўленьне прычын непасылкі дзяцей у школу і зьнішчэньне гэтых прычын.

У мінулым годзе мы мелі цэлы шэраг недахопаў у працы школьных самакіраваньняў, форпостаў. Шмат дзе дрэнна працавалі і настаўнікі.

Нельга пачынаць новы навучальны год, ня выявіўшы ўсіх памылак, дапушчаных у мінулым, не абмеркаваўшы іх для таго, каб больш не паўтараць.

Вопыт працы піонэраў у школе мы маем багаты. Аб ім тут спыняцца ня варта. Роля піонэраў у жыцьці школы таксама ўсім добра вядома. Нашай задачай павінна быць—як мага больш працы пры меншым ліку нядбайства і памылак.

Новы навучальны год мы павінны спаткаць дружна, бадзёра, з поўнай падрыхтаванасьцю.

---

## ЗЬМЕСТ.



---

Да змаганьня за справу працоўных, будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 1 месяц . . . — р. 20 к.
„ 3 „ . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.

ДВУХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25.

**№ 17** **ВЕРАСЕНЬ** **1927 г.**

## ВОСЕНЬ

Кляшторны.

Дзіўны вечар.
Пагода ліпнёвая,
А ў садзе красуецца верасень...
Колькі яблыкаў восень ружовая,
Залацістая восень разьвесіла.
Па-над садам
Вароны штось радзяцца...
Стары сад
Задрамаў ад пацехі...
Колькі, колькі
Дзіцячае радасьці,
Колькі, колькі
Дзіцячага сьмеху.
Колькі сьмеху...
А сьцежанькі вузкія
Усьцілаюць
Вятры жоўтацьветам...
Я хацеў-бы
Каб гэтай сугучнасьцю
Было сэрца заўсёды сагрэта.
Эх, вы сьцежкі,
Дарожанькі вузкя...
Эх, ты, просінь...
Тыняная просінь...
Хоць прыгожа
Вясна беларуская,—
Прыгажэй беларуская восень.
Падзівуйся!..
Пагода ліпнёвая,
А у садзе красуецца верасень...



Колькі яблыкаў
Восень ружовая,
Беларуская
Восень разьвесіла.




Апавяданьне **Я. Маўра.**

Малюнкі маст. **Вало.**

З Гамбургу (Нямеччына) у Амэрыку плыў карабель. Апрача пасажыраў і іншага звычайнага грузу, на ім перавозіўся зьвярынец: слон, ільвы, тыгры, ягуары, вялізныя малпы, бэгамот, насарог і шмат розных іншых зьвяроў.

Гэтыя пасажыры займалі ўсю заднюю палову карабля. Клеткі іх стаялі шэрагам па бакох, і публіка хадзіла паміж іх ды цешылася дармовым прадстаўленьнем, якое было вельмі да-рэчы ў час доўгай, нуднай дарогі.

Надвор'е было добрае ціхае, і гаспадар зьвярынца, тоўсты немец Буш, зьзяў ад радасьці, што падарожжа ідзе так добра.

Так ехалі пяць дзён, але на шосты капітан чамусьці занепакоіўся і перш за ўсіх заўважыў гэта Буш.

— Што такое?—трывожна спытаўся ён.

— Ды вось гэтая хмарка мне не падабаецца...

Буш паглядзеў і ўбачыў на поўначы невялічкае воблачка, якое, здаецца, нічым не адрозьнівалася ад іншых, няшкодных.

— Няўжо-ж яно нейкае асаблівае?—зьдзівіўся Буш.

— Пакуль што нельга сказаць нічога пэўнага,—адказаў капітан,—але дрэнна тое, што яно відавочна набліжаецца сюды з поўначы, у той час, як вецер дзьме са ўсходу.

А праз поўгадзіны было ўжо відаць, што будзе бура. Трывожна забегалі барашкі*), вецер зрабіўся парывісты і ўвесь час зьмяняўся. А хмара ўжо абхапіла паўнеба.

Каманда пачала рыхтавацца да змаганьня з бурай. Буш быў сам ня свой: яго кішэні пагражала сур'ёзная небясьпека.

— Браткі, пастарайцеся! Ці нельга якнебудзь лягчэй?—зьвярнуўся ён да каманды.

Рогат падняўся ня толькі сярод каманды, але і сярод пасажыраў.

— Вам на колькі градусаў зрабіць буру,—падмігнуў адзін матрос.

— Дурны.—Не на градусы, а на мэтры,—паправіў другі.

Але Буш і сам зразумеў, што спароў глупства і, не чакаючы адказу, прайшоў далей, да сваіх зьвяроў.

Яны таксама пачалі ўжо непакоіцца, бо калыханьне рабілася ўсё мацней і мацней. Асабліва цяжка было беднаму слану, бо для такой гары кожны нязначны нахіл дужа знача. Таксама дрэнна было і насарогу. Нават бэгэмот, які сам жыве ў вадзе, і той зароў ад сполаху.

За гэтых-та волатаў галоўным чынам і баяўся гаспадар. Усё можа быць, калі пачне іх кідаць, як мячыкі.

А яно якраз і пачыналася. Сонца схавалася. Засьвяціла маланка, загрукатаў над галавою гром, пайшоў дождж. Ужо ад аднаго гэтага зьвяры замітусіліся і зараўлі так, што заглушылі буру.

Але ўсё гэта было ніштто перад ветрам, альбо, лепш сказаць, перад гойданьнем. Карабель часамі клаўся блізка што зусім на бок, і кожны раз зьвяры сыпаліся на бок сваіх клетак. А калі зараз-жа пасьля

*) Барашкамі на моры завуць невялікія хвалі з белымі пеністымі грабянямі.

гэтага карабель адхіляўся на другі бок, дык зьвяры з вялікай сілай перакідваліся і стукаліся аб другі бок клетак.

Калі са львамі, тыграмі і іншымі лягчэйшымі жывёламі было яшчэ поўбяды, дык з вялікімі зусім другая справа. Можна сабе ўявіць, што павінна зрабіцца, калі такі слон, ці бэгэмот, перакуліўшыся, паляціць ды грукнецца аб краты.

І гэтага моманту ўсе са страхам чакалі.

Слон пакуль што як-ні-як трымаўся на нагах. Абкруціўшы сваім хобатам жалезны прэнт, расставіўшы свае шырокія мяккія ногі, ён, прынамсі, ня коўзаўся, за тое бэгэмот з насарогам куляліся, колькі ўлезе.

Усе пасажыры пахаваліся ў каютах, толькі Буш, мокры, проставалосы, чапляўся на палубе. Ён загадваў сваім памоцнікам там прывязаць, там замацаваць, але што можна было зрабіць, калі абедзьвюх рук не хапала, каб самому ўтрымацца ды не паляцець у мора?

І вось моцным штырхом бэгэмота так трэснула ў дзьверы яго клеткі, што яны ня вытрымалі,—і ашалелы зьвер выкаціўся на палубу.

Не пасьпеў ён апамятавацца, як шпарка паехаў уніз проста на свайго гаспадара, які трымаўся ля трубы. Буш адскочыў і сам пакаціўся па палубе, а бэгэмот, стукнуўшыся задам аб трубу так, што ледзь яе ня вывернуў,—паехаў назад, і папаў носам у клетку са львамі...

Тыя, разьюшаныя і бяз гэтага, грозна зараўлі і накінуліся на яго праз краты, лічачы, што, мусіць, гэты зьвяруга і зрабіў увесь гэты гармідар. Але не пасьпелі яны прасунуць свае лапы, як бэгэмот паляцеў да малпаў і высадзіў іх дзьверы.

Спалоханыя малпы выскачылі з клеткі і мігам апынуліся на мачтах. Але трэба прызнацца, што там ім было яшчэ горш, чымся ў клетцы. Калі карабель схіляўся, яны віселі над бяздоньнем і ледзь трымаліся за гладкія мачты.

Бачачы, што поўзаньне 120 пудовага бэгэмота можа нарабіць вялікай шкоды, капітан загадаў затрымаць яго вяроўкамі. Не пасьпелі матросы прыстасавацца, як карабель схіліўся зусім на бок, і бэгэмот



*Зьвяры з вялікай сілай перакідваліся...*

паляцеў у мора, і разам з ім адзін з матросаў...

Жудасныя крыкі разьнесьліся па палубе, але жудасьней і мацней за ўсіх быў голас Буша:

— Ратуйце! Пятнаццаць тысяч каштуе!..

Кінулі ратавальныя кругі, але дарэмна: у гэткім пекле чалавеку выратавацца немагчыма. Толькі бэгэмот радасна плаваў у вадзе, але глыбіня хвалі і салёная вада хутка паказалі яму, што ён ня ў родным Ніле, і ён жаласна зароў, быццам просячы дапамогі.

Засмуціліся матросы па сваім загінуўшым таварышу, але і сумаваць ня было часу: крануўся слон разам са сваёй клеткай. Калі яго не затрымаць, ён пакрышыць усе клеткі.

— Ланцугоў, вяровак,—крыкнуў капітан:—затрымаць, чаго-б гэта ні каштавала. Праўда, зачапіць клетку было лягчэй, але як яе ўтрымаць? Разам са слонам яна важыць каля 300 пудоў.

Зачапілі за краты, але ледзь клетка кранулася, некалькі прэнтаў выламаліся.

Новы штырх,—і слон паляцеў на львоў. Хруснула клетка,—і перад ільвамі адчыніўся выхад. Мігам палуба апусьцела. Нават Буш, які мучыўся на палубе ад морскай хваробы (ванітаваньне), споўз уніз. Толькі капітан ды рулявы засталіся на сваёй вышцы. Палуба была аддана зьвяром.

Асьцярожна, са страхам павылазілі ільвы на волю. Ледзь трымаючыся на нагах, зрабілі некалькі крокаў і—раптам пакаціліся клубком, куляючыся адзін праз другога. Ня ўтрымаўся на версе оранг-утанг і бразнуўся проста на іх. Ільвы на яго,—і пачалася страшэнная барацьба, якая мела яшчэ зусім нязвычайны характар затым, што зьвяры не маглі трымацца на нагах. Ва ўсякім разе оранг-утанг быў пераможаны, але-ж затое загінуў і адзін з ільвоў.

А слон тымчасам усё працаваў. Ён вызваліў тыграў, насарога, ягуараў і інш. Спыніўся ён толькі тады, калі забіўся ў кут і зачапіўся за якарныя ланцугі.

Рассыпаліся зьвяры па ўсёй палубе. Пачалі грызьціся паміж сабой, але загінула іх мала: гіэна ды пантэра, якія папаліся проста на зубы дужэйшаму.

Наогул-жа ўсім ім было не да бойкі. Карабель гойдаўся, як трэска на хвалях. Часам вада перакідвалася праз палубу (пры гэтым вада зьнесла яшчэ ў мора антылопу). Кожны з зьвяроў думаў толькі аб тым, як-бы ўтрымацца на нагах. „Цары зьвяроў“ мелі выгляд мокрых шчанят.

Каб справа ня была так небясьпечнай, нават пацешна было-б глядзець, як усе гэтыя ільвы, тыгры, ягуары куляліся па палубе. Ледзь толькі ўстануць на ногі, як карабель схіліцца на бок,—і яны ўсе разам ляцяць камяком. Ляснуцца аб якоенебудзь жалеза, не пасьпеюць апамятавацца, як ужо ляцяць у другі бок. А заместа бэгэмота цяпер коўзаўся насарог.

Калі на палубе засталіся адны зьвяры, капітан загадаў камандзе ўзброіцца, каб перастраляць драпежнікаў. Пачуўшы гэта, Буш нават забыўся аб сваёй хваробе і кінуўся наверх да капітана:

— Капітан! Пацярпеце, пашкадуйце! Вы загубіце мяне! Хай толькі сьціхне бура, мы загонім іх назад. Сярод іх маюцца вучоныя. Бачыце, пакуль што яны нічым не пагражаюць. Калі зьвяры будуць захованы, я заплачу 10.000 марак.

— Я зраблю ўсё, што можна,—адказаў капітан.

У гэты момант перад самым іх носам высунулася... галава вялізнай зьмяі. Гэта было ўжо зусім неспадзявана. Капітан адхіснуўся і на момант нібы абамлеў. Потым выхапіў леварвэр і некалькі разоў стрэльнуў у гэту агідную галаву. Зьмяя мякка шаснула ўніз.

— Дзьве тысячы каштуе,—прастагнаў Буш.

Гэта здарэньне напомніла аб такіх зьвярох, аб якіх да гэтага часу ніхто ня думаў. Аб гэтых ціхіх стварэньнях усе забыліся. А яны, як відаць, таксама вызваліліся і распаўзьліся па караблі.

— З гэтымі будзе больш бяды, чымся з усімі іншымі,—нахмурыўшыся сказаў капітан.

У гэты момант пачуліся жудасныя крыкі ўнізе. Крычалі ўсе пасажыры, жаночыя галасы рэзалі сэрца.

— Што такое яшчэ здарылася?—крыкнуў капітан уніз.

— Ня ведаем яшчэ—адказалі з машыннага аддзяленьня.

У капітана сьціснулася сэрца. Пачуліся стрэлы. Але капітан ня мог пакінуць свайго месца.

— Хутчэй даведацца, што там такое?— ізноў крыкнуў ён.

— Тыгра ўнізе сярод пасажыраў,—быў адказ.

Ізноў пачуліся стрэлы.

Капітан пачаў дрыжаць ад непакойства і нецярплівасьці.

— Ну, ну? Як? Што?—ізноў крыкнуў ён.

— Яшчэ зьмяя і ягуар. Адну жанчыну ўкусіла зьмяя,—абвясьцілі зьнізу:—Але ўжо ўсё скончана.

— Ай-яй-яй,—ізноў прастагнаў Буш.— Ізноў страта тысяч на пятнаццаць. Я зусім прапаў!

Але капітан ня чуў гэтых слоў.

— Пастаўце варту ля ўсіх зьвяраў!— загадаў ён:—Усім быць на пагатове.

— Капітан,—узмаліўся Буш:—калі ласка асьцярожней. Хай не страляюць без патрэбы.

— І так ужо дзьве ахвяры маем з-за вашых зьвяроў,—буркнуў капітан.

А ўнізе тымчасам адбывалася наступнае:

Аднаго з тыграў з усёй моцы кінула аб дзьверы, якія вялі ўніз, у пасажырскія памяшканьні.

Дзьверы ня вытрымалі, і зьвер пакаціўся ўніз па сходнях. Пасажыры кінуліся хто куды. Пакуль тыгра апамятаваўся, прыбеглі матросы і застрэлілі яго, але тымчасам у расчыненыя дзьверы ўскочыў ягуар, а за ім прабралася зьмяя. І вось тут загінула адна жанчына...

Бура пачала сьціхаць. Вось ужо зьявілася сонца. Але карабель усё яшчэ гойкаўся. Прайшоў яшчэ некаторы час, пакуль можна было пачынаць вайну са зьвярамі. А яны тымчасам пачалі супакойвацца і трымаць сябе, як сапраўдныя гаспадары. Падняўся на ногі насарог. Ля забітых зьвяроў пачалася тузаніна; расьцягвалі па палубе вантробы. Слабейшыя хаваліся ад дужэйшых.

Буш прапанаваў такі плян: выступіць супроць зьвяроў з пажарнымі рукавамі, нават з гарачай вадой. Адагнаць іх ад клетак. Перавесьці мірных жывёлаў, напр. зебру, страўса, тапіра, жырафу і г. д. у папсаваныя клеткі і як-небудзь іх там заперці, а небясьпечных загнаць у цэлыя. Матросам была абяцана ўзнагарода.

І вось павылазілі спачатку „пажарнікі“. За іх сьпіною са стрэльбамі матросы. Зьвяры спачатку былі вельмі зьдзіўлены такой арміяй. Але калі задалі ім гарачай вады, дык яны з жалобным воем пабеглі прэч.




*... Яны з жалобным воем пабеглі назад.*

Аддзяліць зьвяроў ад клетак было досыць лёгка. Перамясьціць зазнаўшыхся жывёлаў—таксама. Цяжэй было аддзяліць тых няшкодных зьвяроў, якія былі на палубе разам з драпежнымі. Дзеля гэтага дзесяткі разоў прышлося круціцца па палубе ўзад і ўперад.

І вось у адзін з гэтых разоў на аднаго матроса аднекуль з шчыліны напала

раззлаваная вадой зьмяя і абкруцілася вакол усяго цела.



*Яна так і прыехала ў Амэрыку на мачце.*

— Ратуйце— закрычаў ён і пакаціўся на зямлю.

Але, як было ратаваць? Страляць нельга было, бо зьмяя шчыльна абкруцілася вакол небаракі. Нават рубіць, або рэзаць трэба было асьцярожна, каб не параніць чалавека.

І пакуль яе забілі, чалавек загі-нуў...

— Усе мае зьмеі прапалі. Тры былі,—і ўсе загінулі. Яшчэ восем тысяч страты,—прашаптаў Буш.

Самая цяжкая справа была загнаць апошніх зьвяроў. К вялікаму адчаю Буша пры гэтым яшчэ прышлося застрэліць аднаго ільва.

Толькі адну гарыллу аніяк не маглі загнаць. Яна так і прыехала ў Амэрыку на мачце.

Хоць і вялікую страту пацярпеў Буш, але ён добра ўзнагародзіў капітана за тых зьвяроў, якія выратаваліся. Атрымала крыху і каманда.

Ня ведаю толькі, ці атрымалі што сем'і загінуўшых?

Але ўрэшце ўсё-ж такі Буш і тут зарабіў. Слава аб яго зьвярынцы разьнеслася па ўсёй Амэрыцы. Кожны імкнуўся паглядзець на тых самых зьвяроў, якія нарабілі столькі шуму. Асабліва на гарыллу, якая прыехала ў Амэрыку на мачце.

**Янка Маўр.**

**Ад рэдакцыі.** Рукапіс гэтага апавяданьня быў атрыман рэдакцыяй у чэрвені, а ў канцы ліпня ў расійскай часопісі „Вокруг Света" (№ 14) зьявілася апавяданьне О. Гарді, акурат на тую самую тэму. Тэмай для абодвых апавяданьняў паслужыла заметка ў аднэй з газэт аб гэтым здарэньні. Супадзеньне цікавае і сьведчыць яно аб цікавасьці самой тэмы. Дзеля таго, што твор нашага супрацоўніка зьяўляецца самастойным і мае свае дадатныя бакі, мы зьмяшчаем яго з вышэйпамянёнай увагай.

---

# ЧАГО Я ХАЦЕЎ-БЫ *)

*(Піонэрам не падпішчыкам).*

Я скажу, мае вы братцы,
Чаго хацеў-бы я, Аер:
Каб у кожнага у хатцы
Быў „Бел. Піонэр".

Хоць вам я і не вядомы,
А сорамна з-за вас,
Што з журналам не знаёмы,
Ды каторы час?

Я сам малы—таму жадаю,
Каб кожны з нас цяпер—
Падпісаўся на часопісь
„Беларускі Піонэр".

А цяпер усім прашчаю,
Можа вы і ня зналі,
Толькі вось адно жадаю,
Каб надалей не забывалі.

Усюды, усюды каб чыталі,
Вось-бы я сьпяваў-бы,
І каб самі вы пісалі—
Тады нічога не жадаў-бы!

**Аер.**

М-ка Капыль.

*) Друкуецца без папravак.

# Школьнік

Апавяданьне **А. Цітавай.**

Малюнкі маст. **А. Абрамава.**

Вёска Ялоўка зусім маленькая. У ёй толькі 12 двароў. Няма нават і школы. Узімку яе так замятае сьнегам, што і ня відаць за гурбамі. У гэтай вось вёсцы і жыў хлопчык Янка з сваімі бацькамі і дзьвюма сёстрамі. Янку было 9 год і ён яшчэ нідзе ня быў, акрамя сваёй вёскі. Узімку бегаў ён з хлопцамі па вуліцы ў сястрыной старой кашульцы і бацькавай шапцы. Сям'я яго жыла бедна.

— Нічога, Янка,—казала маці,—вось падрасьцеш і табе кажушок справім, а пакуль што па вуліцы бегаць і гэтак добра.

Улетку Янка скародзіў, вадзіў каня пасьвіць і памагаў у сям'і чым мог. Гэтак і жыў Янка, чакаючы ўлетку зімы, а ўзімку—лета.

З гэтае вёскі хадзілі два хлапцы—Пятрок і Міна ў суседнюю вёску ў школу. Ім было ўжо гадоў па дванаццаць. Да суседняе вёскі было 3 вярсты.

Забяжыць Янка ў нядзелю да Міны і слухае, што апавядае ён пра школу. Разглядае Янка кніжкі і так хочацца яму ў школу, дзе многа дзяцей, дзе гэткія кніжкі з малюнкамі і гэтак там у школе цікава і весела.

Спрабаваў Янка ў бацькі і маці прасіцца, каб пусьцілі яго ў школу. Куды там? І слухаць ня хочуць.

— Куды, у школу? Блізкі сьвет... Зьмерзнуць на дарозе хочаш?—кажа маці:—Ды і нашто яна табе, гэта граматыка, хлеба з яе не пад'ясі.

— Ня столькі грамаце навучышся, колькі пропадам-прападзеш,—дадае бацька.

— Пачакай, вось падрасьцеш, тады паглядзім.

А Янка ня можа супакоіцца і яшчэ больш і больш хочацца яму ў школу.

Аднаго разу прыбег Янка да Міны і бачыць, што ён прыбівае да сьцен-



*Паднялася завіруха. Замятае яна дарогу сьнегам.*

кі цьвічкамі нейкі малюнак. Падышоў бліжэй ды пытаецца: „Хто гэта намалёван тутака?“ А Міна адказаў: „Гэта Ленін“. Ты во яшчэ і ня ведаеш, што Ленін вялікі правадыр рабочых і сялян. Ён дапамог рабочым і сялянам узяць уладу ў свае рукі. Ён шкадаваў усіх тых, хто працуе. Ленін вельмі любіў дзяцей і казаў, каб яны вучыліся. У школе ў нас ёсьць вялікі портрэт Леніна“.

Доўга стаяў Янка і разглядаў портрэт Леніна.

— А каб Ленін мяне ўбачыў, дык сказаў-бы, што трэба і мне вучыцца?—пытаецца Янка.

— А як-жа. Ён усім дзецям працоўных людзей казаў, што трэба вучыцца, каб зноў не адабралі ўладу ад працоўных буржуі, і каб працоўным лепш жылося. Во, каб былі ў нашай вёсцы ўсе пісьменныя, дык лепей і ім жылося-б, і нам. Бацькі-б самі па чарзе вадзілі-б нас у школу, бо ведалі-б, што бяз граматы кепска жыць— адказаў Міна Янку.

Пойдзе Янка ад Міны дамоў, сядзе і разважае сам з сабою аб усім, што чуў ад Міны. Здаецца зараз-бы пабег у школу. А як падумае, што і яму-б там кніжку далі, дык аж сам-сабе ўхмыляецца.

— Што ты нешта сядзіш ціха і сам сабе ўхмыляешся?—пытаецца ў Янкі маці.

Ачнецца Янка ад сваіх думак, глядзіць на маці і нічога ёй не адказвае, бо за думкамі ня чуў аб чым яна яго пыталася.

— Можа што баліць, Янка?

— Не, мама, у школу хочу. Пусьці ты мяне ў школу, — кажа ёй Янка.

— Во, дурань, во прычапіўся з сваёй школай. Ідзі вось шпульку нітак зматай на матавіла, можа дур з галавы выпадзе.

Гэтак прайшло два тыдні. Аднаго разу ўвечары Янка думае: заўтра тата паедзе ў мястэчка, а я пабягу ў школу. Хоць разок зьбегаю, пагляджу.



*Спужаўся яго малады конь цябе...*

На другі дзень, як толькі бацька паехаў у мястэчка, а маці пайшла карміць жывёлу, Янка апрануў стары бацькаў кажух і шапку, выбег на вуліцу і пайшоў хуценька па тэй дарозе, куды, ён бачыў, ходзіць Міна і Пятрок. Надвор'е зранку было добрае. Папырхваў невялічкі сьняжок, падыхаў ветрык. Ідзець Янка, сьпяшаецца, аж горача стала яму.

Вось прайшоў ужо маленькі ельнічак.

„Ці скора гэта ўжо тая вёска, дзе школа?“—думае Янка. Ён ужо крыху ўтаміўся, бо сьпяшаўся ісьці. Раптам, як задзьмуў вецер, як зашумеў. Паднялася завіруха. Замятае яна дарогу сьнегам. Быццам вялізнымі прыгаршчамі кідае завіруха сьнег у твар Янку. Вочы яму засыпае. Цяжка стала ісьці Янку.

„Сяду, пасяджу крыху каля дрэваў,—падумаў Янка,—можа сьціхне завіруха“. Падышоў да дрэва, сеў сьпіною да ветру, закруціўся лепей кажухом, насунуў шапку на вочы і сядзіць. Шуміць мяцеліца, завіруха вые даўгую жалобную песьню. І ня прыкмеціў Янка, як заснуў пад гэту калыханку завірухі. Не пачуў ён ужо, як пачалі мерзнуць яго пальчыкі, як пачало дубець яго цела. Сьпіць Янка і бачыць, што ён прышоў ужо ў школу. Колькі тут дзяцей! Колькі вісіць малюнкаў! А вось падышла да яго настаўніца і кажа:

— На, Янка, табе кніжку, вучыся і ты з намі.

— А я вельмі хачу вучыцца,— адказаў ёй Янка, і ўзяў кніжку.

Рады, рады адышоўся ён і пачаў разглядаць яе. „Гэткая прыгожая кніжка. Пакажу дома бацьку і маці“— думае Янка,—„тады заўсёды будуць пушчаць мяне ў школу“. А як тутака добра і весела. Вучні гуляюць, чытаюць, пішуць. Вось пачалі пяяць. Як прыгожа яны пяюць. Ён гэтак яшчэ ня ўмее. Усё ў школе якраз так, як і апавядаў яму Міна. А вось і той портрэт Леніна.

Глядзіць на Янку Ленін, і здаецца Янку, што ён так ласкава яму ўсьміхаецца. Вось, вось, здаецца, загаворыць з ім. Глядзіць Янка на портрэт і бачыць, што Ленін ідзе да яго. Паклаў Ленін руку на галаву Янку і кажа: „Добра, што ты хочаш вучыцца, Янка, на табе і маю кніжку“. І дае Ленін яму вялізную кніжку. І раптам бачыць Янка, што зноў вісіць толькі портрэт Леніна, а ў руцэ ў яго ня кніжка, а вялікая чырвоная зорка. І чуе Янка, што нехта гаворыць каля яго:

— Яначка, Яначка, ці чуеш ты што, сыночак мой?—плача нехта над ім. Раптам прапала і школа і вучні. Адчыніў Янка вочы. Ляжыць ён на лаве ў сваёй хаце накрыты кажухамі. Над ім стаіць маці і плача. Як убачыла яна, што адчыніў Янка вочкі, як кінецца да яго:



*— Палепшай, Яначка, палепшай толькі,—супакойвала яго маці.*

„Яначка, сыночак мой, куды-ж ты надумаўся ісьці? А чаму-ж ты нікому не сказаў? Ты-ж ледзь ня зьмёрз на дарозе! Добра, што якраз ехаў сусед Аляксей. Спужаўся яго малады конь цябе, адскочыў у бок. Аляксей прыгледзеўся, а твае толькі плечкі відаць. Сыночак ты мой родненькі!“ Плача маці. А ў Янкі ў галаве яшчэ яго сон стаіць і ня ведае ён, ці то сон быў, ці не.

— А дзе мая кніжка, мама?—прагаварыў ён.

— Якая кніжка, сыночак? Ня было ў цябе кніжкі. Ты не дайшоў да школы. Завіруха задзьмула цябе. Цябе Аляксей знайшоў на дарозе. Ледзь адцерлі цябе. Добра, што ня вельмі зьмёрз.

— Мамка, а ці пусьціш ты мяне ў школу хоць па кніжку схадзіць?—пытаецца Янка.

— Палепшай, Яначка, палепшай толькі. Папросім бацьку, каб купіў табе кніжку, а на тую зіму, як пашыем табе кажушок, і ў школу пусьцім,—супакойвае яго маці.—Палепшай толькі, сыночак!



# НА ВУЛІЦЫ

*(Абразок).*

Праменьні сонца ліпнуць на асфальце,
Паветра пыльнае... Аўтобусы сьпяшаць.
Па вуліцы, з вялікім барабанам,
Праходзіць піонэратрад...
І вочы іх, і гальштукі чырвоны,
Агнямі шчасьця, радасьці гараць.
Здаецца, што на шэрым фоне
Ўсплывае раньняя, шчэ росная зара.
А на рагу з раскіданым валосьсем,
Адкрыўшы рот, нібы зьмярцьвеў пацан,
І сэрца птушкаю за гукамі імкнецца,
Дзе марш выстуквае прывабны барабан:
„Красный барабанщик,
Красный барабанщик,
долго спал...“
З задумай хлопчык ліча пятакі
і голасна выкрыквае:
На капейку пара!..
Купляйце сьлівачны ірыс,
Конфекты мятныя ці шакаладкі“.
І цэлы дзень ён на рагу стаіць,
Здалёку усьміхаецца кнігарня.
А шчэ амаль ня крануты ірыс,
І ў жываце бульбукае ад раньня.
Ідзе нэпман, сьпяшацца шкаляры,
І кожнаму ён кідае ўздагонку:
„Пара на капейку сьлівачны ірыс!..
„Пара на капейку, пара на капейку“...
І позьнім вечарам, забраўшыся на печ,
Ён моцна сьпіць... А казка-сон
Фарбуюць шэрую далечынь,
Гдзесь барабан сьмяецца за вакном,
Прытульна расчынілася знаёмая кнігарня...

І Ясік наш шагае важаком
Ды голасна выкрыквае загады:
—На лева!..—ша...го...м!!.

**З. Бандарына.**



# Вялікі муштравальнік жывёлы.

У асобным будынку на Божадомцы ў Маскве жыве вядомы штукар-муштравальнік Дураў са сваімі зьвярамі. Усе паверхі будынку застаўлены living рознымі клеткамі: каля 500 розных відаў тварынаў знаходзяцца ў іх, і ўначы і ўдзень сярод іх з прыветнаю ўсьмешкаю блукае стары Дураў. Ён ласкава называе іх living рознымі прозьвішчамі і вучыць.

Вось ён падышоў да клеткі, у якой дзяўбе проса галка, ён робіць ёй няпрыкметны рух і кажа: „гаўкай“, і галка тоненька, еле зусім як сабака, гаўкае. Заяц, як толькі ўгледзіць свайго настаўніка, радасна ківае галавой ды пачынае скакаць.



*Дураў абучае морскага ільва.*

На ўсіх паверхах чутны рыканьні, гогат птушак, і толькі зьявіцца сівы стары, як яны заціхаюць і пакорна глядзяць усе яму ў вочы.

### Морскія ільвы

Унізе дураўскага будынку несамавіта равуць у басэйне морскія ільвы. Яны як шалёныя круцяцца ў басэйне, выкідаюцца на бераг, але, калі толькі Дураў скажа адно слова, ільвы з ціхім піскам круцяцца каля яго ног і спакойна муркочаць.

Гэтыя ільвы страляюць з гармат, скачуць, гуляюць з кулямі. Цярпліва вывучаючы гэтых зьвяроў, Дураў дасягнуў таго, што яны, зусім як людзі, умеюць прадстаўляць самыя складаныя сцэны.

### Ня казка, а праца

Для шмат каго Дураў стаў чалавекам нібы з казкі. І ня дзіўна. Хіба ня цудоўным здаецца тое, што зьвяры пад яго кіраўніцтвам робяць нячуваныя штукі. Хіба ня дзіўна, што журавель скача кадрыль, а сабака гаўканьнем адказвае, колькі будзе два ды два.

Але гэта ня казка. Ужо шмат гадоў працуе Дураў над муштроўкай сваіх зьвяроў.

Ад іншых муштравальнікаў ён адрозьніваецца тым, што ня мучыць зьвяроў, ня б'е іх, а ласкаю прымушае іх выпрабляць розныя штукі. Дураў угадвае ў кожнага зьвера яго здольнасьці, а пасьля шляхам доўгай і ўпартай працы, дабіваецца таго, чаму так дзівяцца людзі.

### „Німус“

Ныні Німус ужо мёртвы і знаходзіцца ў шкляной пасудзіне засьпіртаваным.

Дураў, набыўшы Німуса, пачаў з ім займацца, каб давесьці тое, што малпа можа трымаць сябе ня горш за чалавека, і гэтым самым даказаць, што думка аб паходжаньні чалавека ад малпы не такая ўжо і непраўдападобная, як някакорыя думаюць.

Пасьля нязначнага часу навучаньня Німус пачаў гаварыць. Дурава ён называў „Дзеда“, а папугая „попа“.

Німус нават навучыўся перадаваць свае жаданьні і пачынаў маляваць. У Дурава маецца сшытак з яго малюнкамі. Аднаго разу Німус давёў, што ён ня горшы ад чалавека.

Гэта было ў прысутнасьці шмат якіх вучоных. Німус зьвярнуў увагу на італьянскі малюнак. Мастак намаляваў чалавека, які плача над трупам малпы, а вакол яе сабакі, якія гаўкаюць. Німус доўга глядзеў на малюнак. Стаіўшы дыханьне, стаялі вучоныя,—яны баяліся спужаць яго,—і раптам Німус падышоў да малюнка і, абурана сплюнуўшы на сабак, шчыра пацалаваў мёртвую малпу

## Цягнік Дурава

Ужо багата гадоў Дураў выступае перад публікаю са сваім вядомым цягніком. Цягнік гэты нічым бадай што не адрозьніваецца ад цягнікоў, якія імчацца па нашых чыгунках, але ён у шмат разоў меншы і пасажыры яго іншыя.

Па праложаных рэльсах, гудучы і пыхкаючы, імчыцца паравоз. Галоўны машыністы, малпа Жыжы, спрытна кіруе машынай і ў патрэбны момант націскае ручку лютага гудка. У вагонах цягніка разьмясьціліся пасажыры. У час перапынак з падножак саскакваюць куры, зайцы; яны паважна гуляюць сабе на пляцформе і вітаюцца з малпамі.

Цяпер галоўны машыністы Дурава— малпа Жыжы. Жыжы гушкаецца сабе ў клетцы на гутаталцы, сьмешна выскаляецца і перакідаецца з месца на месца.

Калі Дураў выпускае Жыжы з клеткі, яна доўга круціцца па падлозе, пасьля бяжыць да трубы паравога атапленьня, з асалодай выцягваецца на ёй і гладзіць яе з нейкай асаблівай ласкай. Жыжы прывыкла да свайго цягніка, труба паравога апалу нагадуе ёй печку, і праз гэта яна так любіць гэта цёплае месца.

## Куточак Дурава

На другім паверсе асобнага будынку маецца музэй, або, як яго называюць, „Куточак Дурава“. У прасторных пакоях замерлі ў розных позах воблікі тварын, якія калісьці дзівілі гледачоў сваім розумам і муштроўкай.

Тут маецца вядомы сабака „Запытайка“, яго ведалі ва ўсёй Расіі, тут стаіць, выцягнуўшы шыю, стравус, на якім калісьці Дураў езьдзіў, а шмат хто з людзей думае, што стравус гэта самая дурная птушка. Сваёю працаю Дураў давёў усяму сьвету, што няма „найдурнейшых“ тварын.

Калі толькі над кожнай добра папрацаваць, дык вынікі можна атрымаць самыя добрыя. А як-жа Дураў вывучыў нават двох жураўлёў скакаць? Між іншым, з гэтымі жураўлямі быў цікавы выпадак.

Дураў, адышоўшы на нейкі час, забыўся аб іх, а яны, выбраўшы зручны момант, паляцелі. Дураў ніяк ня мог адшукаць іх.

Аднаго дня да яго прышоў паляўнічы і прынёс забітага жураўля. Ён з хваляваньнем расказаў наступнае:

— Я, ведаеце, стары паляўнічы і бачыў шмат зьвяроў і птушак, але тут я ўбачыў штосьці для мяне яшчэ неьядомае, і таму мне давялося забіць вашу птушку. Я ішоў ля балота, раптам убачыў жураўлёў, якія абняўшыся, скакалі. Я ня верыў сабе. Я пачаў шчыпаць сабе рукі, церці за нос, мне здавалася, што бачу дзіва, або што іншае са мною сталася. Толькі тады, калі стрэліў і журавель упаў, я зразумеў, што гэта вашы птушкі.

**М. В. Д.**



*Славуты цягнік Дурава.*

# З жыцьця дзяцей усяго сьвету

## Дзіцячы Інтэрнацыянал.

Пад цяжкімі скляпеньнямі старажытнага вакзала радасна зьвінелі дзесяткі галасоў. З няпрывычкі цяжка было распазнаць у гэтым зьмешаным гуле расійскія, французскія і нямецкія словы.

Сакольніцкія піонэры, сьціснуўшы чужаземных гасьцей цесным колам, даволі сьмела, без прабачэньняў, тузалі за рукавы французаў і, выгаварваючы адзінае знаёмае слова: „камрад“,—жэсьцікуляцыяй паясьнялі ўсё іншае.

Жывыя французы пасьпявалі адказваць кожнаму. Немцы трымаліся больш спакойна і больш сур'ёзна. За 3½ месяцы, праведзеныя ў СССР, яны прывыклі да такіх бурных спатканьняў і провадаў. Шмат вёсак, гарадоў і заводаў ляжала на іх шляхох, і ўсюды шчасьлівыя дзіцячыя твары спатыкалі і праводзілі іх.

*Вашы дзеці заўсёды вясёлыя,*—сказаў Гары, каб адрозьніць асноўную розьніцу дзяцей СССР ад дзяцей Нямеччыны.

К 7 гадзінам зьявіўся вайсковы аркестр, і зялёныя шэрагі сакольнікаў прынялі належны парадак і выпрасталіся доўгай істужкай перад шырокім уваходам на пляцформе. Пад гукі маршу вышлі на гладкую пляцформу, залітую астатнімі праменьнямі, зыходзячага на вежы цэркваў, сонца. Французы, адшукаўшы сваё месца ў вагоне, і пакінуўшы там свае рэчы, вышлі на пляцформу, апынуўшыся ізноў сьціснутыя ў цесным коле праводзячых. Кароценькі мітынг, наладжаны сакольніцкімі піонэрамі ў адзнаку ад'езду 2-х дэлегацый: нямецкай і французскай; першай—дамоў, а другой—у сэрца СССР, на Урал і далей, пачаўся. Французы вясёлыя і радасныя сказалі:

*„Мы едзем знаёміцца з вашай краінай, з жыцьцём вашых рабочых і дзяцей, каб расказаць праўду на бацькаўшчыне аб дзяржаве рабочых і сялян“.*

Немцы, трошку сумныя таму, што яны ўжо выяжджалі з гэтай шчасьлівай краіны „вясёлых дзяцей“, сказалі яшчэ карацей:

*„Вашы дзеці шчасьлівыя, яны жывуць у вельмі добрых умовах. Дзеці рабочых Нямеччыны ніколі ня будуць жыць так, пакуль буржуазія знаходзіцца ўладаром краіны“.*

Аратары гаварылі з запалам. З суседняй пляцформы, дзе стаяў цягнік прыгародных зносін, пасажыры пералезьлі сюды пры дапамозе ахвотна працягнутых рук прысутнымі, і, заслухаўшыся, прапусьцілі ўсе сьвісткі і гудкі свайго цягніка.

Скончыўся мітынг. Сьпешна садзіліся ў вагон французы, на пляцформе чутны былі крыкі:

„Няхай жывуць пролетарскія дзеці ўсіх краін“.

У вокнах вагона зазьзяла электрычнасьць. Чатыры галавы ў круглых шапачках высунуліся ў вакно. Цягнік ціха паплыў перад доўгім шэрагам піонэраў. Французы замахалі рукамі: „Адзье, адзье, камрад“.

— Бывайце,—зьвінела пляцформа.

Праз некалькі гадзін другі цягнік з Акцябрскага вакзала ўносіў нямецкую дэлегацыю на бацькаўшчыну, расьсяваючы густыя змрокі снапамі электрычнага сьвету. У той краіне, куды цягнік накіраваў свой усхваляваны бег, застывалі адзінокімі агні станцый, а дзесьці далёка шумеў Бэрлін, сталіца бацькаўшчыны, ненавідзімы да таго часу, пакуль на яе шырокіх вуліцах тарчаць штыкі шуцманаў.

В. К.

## Нашыя ворагі ва ўсім сьвеце.

*(Хто такія бой-скавуты)*

Палісмэн падняў уверх сваю палачку, і вулічны рух спыніўся. Яскрава сталі чутны рэзкія гукі шатляндзкіх дудачак і шум барабана. Пад каманду чалавека гадоў 35-ці з вайсковай муштроўкай пераходзіў вуліцу атрад хлопчыкаў. Адзетыя ў аднолькавую па колеру адзежу, у шапках з шырокімі брылямі, на шыі сінія гальштукі і з палкамі ў руках ішлі яны па чатыры чалавекі ў шэрагу. На-

перадзе адзін хлопчык нёс сіні штандар з намалёваным на ім сьвятым Юркам, які зьядае дракона[1]).

— Праклятыя, зноў яны мяшаюцца...— працадзіў праз зубы шофэр „буса“ (аўтобуса).

— Ах, глядзеце, якія слаўныя бой-скавуты,—зьвярнулася ў аўтобусе к свайму спадарожніку жанчына з маноклем, у вельмі прыгожым капялюшы.

— Але-а, малайцы хлопцы,—адказаў на пытаньне спадарожнік.

Але гэта быў атрад бой-скавутаў, хлапцоў-выведчыкаў. Прыгледзімся да іх уважлівей.

У кожнага з бой-скавутаў на грудзёх і на рукавох дзесяткі значкоў і стужак (гэта адзін з спосабаў утрымліваньня дзяцей у організацыі). Вывучыў або зрабіў якую-небудзь справу і—атрымаў значок. Кожныя восем хлапцоў складаюць варту, якой даюць імя якога-небудзь зьвера, напрыклад, „Тыгры“, „Арла“ і ім падобныя.

Вартаўнік не выбіраецца, а прызначаецца з старых скавутаў. Тры вартаўнікі складаюць зьвяно[2]), а многа зьвёньняў—атрад.

Гэты атрад накіроўваецца на парад бой-скавутаў Усходняга Лёндону (усякага роду парады, сьвяты і ўрачыстасьці таксама маюць на мэце прывабіць хлапцоў).

— Ало, вартаўнікі кенгуру! На парадзе будзе наш шэф!—сказаў вартаўнік Джэк.

— А хто наш шэф?—спытаўся далікатны (г. зн. толькі што прыняты ў скавуты) Фрэдзі.

— Замаўчы, гэта цябе ня тычыцца. Будзе прынц Уэльскі, а ты яшчэ ня годзен быць яго скавутам,—і Джэк з лісьлівасьцю паглядзеў на свой рукаў, дзе быў значок з адзнакамі „Скавут прынца Уэльскага“. Усякія высокія асобы і капіталістыя вельмі клапоцяцца аб скавутах, яны знаюць, што скавуцкая організацыя—верная апора. І недарма ахвяраваньні тысячамі і дзесяткамі тысяч рублёў сыплюцца на скавутаў. Недарма каралі і прынцы так і любяць наведваць парады і сьвяты скавутаў. Добрых і паслухмяных салдат рыхтуюць з хлапцоў скавуты.

З-за вугла насустрач атраду скавутаў паказаўся атрад дзяўчат, адзетых гэтак сама, як і бой-скавуты.

— Фі, дзяўчаты, гэрль-гайды... цярпець іх не магу...

— Але, гэта добра, што мы займаемся асобна... Плаксы яны вялікія...

З гутаркамі атрад падышоў к Алімпіі, вялізарнаму цырку, дзе звычайна адбываюцца скавуцкія парады. На вагромністай арэне сабралася 10.000 скавутаў. Дзесяткі мікрафонаў былі разьмешчаны сярод скавуцкіх атрадаў.

— На малітву!..—пачулася каманда з трыбуны. На трыбуне організатар і правадыр скавутаў усяго сьвету, былы генэрал і начальнік паліцыі Паўднёвай Афрыкі—Робэрт Бадэн-Пауль. Поруч з ім некалькі папоў, сын ангельскага караля і цэлая куча генэралаў і скавуцкіх начальнікаў.

Богаслужэньне кончылася, а пасьля яго выступіў з прамоваю „містэр“ з міжнароднага скавуцкага бюро.

— Браты скавуты і скавут-мастэры!— пачаў ён.—Наш рух робіць вялізарныя посьпехі.

За 1926 г. колькасьць скавутаў ва ўсім сьвеце павялічылася на 79147 асоб і налічвае 1.639.644 скавуты.. Скавуцкі рух набывае зараз вялізарнае значэньне ў барацьбе з той звычайнай бязбожнай хваляй, якая надыходзіць з Усходу. Савецкі ўрад і Трэці Інтэрнацыянал узмацняюць прапаганду сярод моладзі на карысьць бальшавізму. Саветы ўціскаюць духавенства, выдаюць бязбожныя часопісі, не шануюць бацькоў. Саветы організавалі ў Расіі чырвоных піонэраў, якія служаць „чаке“ сышчыкамі і здраднікамі. У кожнай школе маюцца форпосты піонэраў, якія адыгрываюць ролю „шпігаў чакі“. Форпост павінен шпіёніць за настаўнікамі і іх выдаваць. Піонэры зьяўляюцца таксама „вокам чакі“ ў сваёй сям'і.


*Організатар бой-скавутаў генэрал Бадэн-Пауль.*

[1]) Магутны зьвер.

[2]) Слова „зьвяно“ замяняецца ў бой-скавуцкіх атрадах словам „аддзяленьне“.

Спэцыяльная інструкцыя паказвае дзецям, як шпіёніць за бацькамі і прываблiваць іх у комуністычную партыю. Гэтыя дзеці часта бяз хаты і пападаюць пад уплыў розных шкодных дзеяньняў. Злачынства сярод моладзі і дзяцей у Расіі вельмі пашырана.

Кожны скавут павінен весьці барацьбу з гэтым цудоўным злом, павінен папярэдзіць бацькоў піонэраў аб кепскай будучыне іх дзяцей і сьцерагчыся самому не папасьці ў пастку комуністых. Я нагомню вам аб лёсе трох скавутаў з вашай часткі Лёндону, якія асьмеліліся ў 1923 г. прапанаваць начальніку атрада ўвесьці ў атрадзе комуністычнае самакіраваньне і папоўніць атрад хлапцамі з тыднёвай комуністычнай школы. Мы выключылі іх з ліку скавутаў. Няхай гэта будзе строгім прыкладам для ўсіх вас.

Я павінен таксама выказаць вам падзяку за вашае прыкладное трыманьне ў час усеагульнай забастоўкі—ад нападу на нашага караля і імпэрыю. Скавуты падтрымлівалі сувязь, працавалі на электростанцыях, самаходах і г. д. Вы зрабілі ня мала для таго, каб „чырвоныя" былі абняслаўлены. Памяць 15.000 скавутаў, забітых у вялізарнай вайне за брытанскую імпэрыю, не заплямлена.

Калі-б у Кітаі была вялікая скавутская організацыя, то бальшавіцкія агітатары ня мелі-б там посьпеху. Памятайце аб гэтым прыкладзе і не падавайцеся „чырвоным!" За бога, караля і старую Ангельшчыну!

— Але, выдатная армія выйдзе з гэтых хлапцоў,—сказаў стары генэрал, абходзячы шэрагі скавутаў.

— І прытым, вашае прэвасходзіцельства, гэта будуць салдаты, застрахаваныя ад усякіх бунтаў і будуць страляць у каго патрэбна,—дапоўніў шагаўшы з боку сябра галоўнай кватэры скавутаў Ангельшчыны.

Адказ на пытаньне, ці выйдуць з скавутаў паслухмяныя нявольнікі—рабочыя і салдаты, залежыць ад ангельскіх піонэраў. Яны павінны вырваць тысячы пролетарскіх хлапцоў і дзяўчат з-пад уплыву скавуцкіх організацый.

---

# Піонэры Нямеччыны і Францыі—браты

У МДТ у г. Дзюсельдорф (Нямеччына) прыехала дэлегацыя—2 францускіх піонэры і адзін комсамолец. Цягнік спатыкаць прышлі прадстаўнікі ад саюзу Юных Спартакаў гэтага гораду. На пляцы перад вакзалам для спатканьня дэлегацыі сабралася некалькі соцень піонэраў, комсамольцаў і рабочых. У піонэраў быў вялікі плякат, на якім было напісана: „Няхай жыве братэрства піонэраў", і „няхай жыве братэрства пролетарскіх дзяцей усяго сьвету" (на францускай мове).

Францускія піонэры былі спатканы дружным „Будзьце гатовы"! Оркестр піонэрскі выканаў Інтэрнацыянал. Тут-жа быў наладжаны лятучы мітынг. Чатырнаццацёхгадовая піонэрка вітала францускую дэлегацыю на францускай мове.

Адзін з францускіх піонэраў адказаў ёй на прывітаньне. Пасьля прамоў сяброў партыі і комсамолу ўсе накіраваліся ў партыйнае бюро. Дэлегацыя прабыла ў Дзюсельдорфе некалькі дзён, пабыла ў двух лягерах Саюзу Юных Спартакаў і пасьля гэтага выехала ў г. Кельн для таго, каб там прыняць удзел у сьвяткаваньні.

### Спужаліся дзяцей.

У часе МДТ піонэры г. Вены наладзілі вечар, на якім прысутнічалі дарослыя і шмат неорганізаваных. Сіламі саміх піонэраў была пастаўлена п'еса, якая ўсім спадабалася. На аўторак была прызначана дэмонстрацыя. Піонэры ўжо накіраваліся ў дарогу, калі раптам прыбыўшая паліцыя дубінкамі разагнала іх. У гэты дзень піонэрам так і не ўдалося наладзіць сваю дэмонстрацыю.

# Заданьне па аздараўлень

## Пад беларускім сонцам...

*(Уражаньні ўдзельніка лягеру піонэраў мяст. Смалявічы)*

*Лягер наладжваецца.* Сёньня, як і заўсёды, па звычайнаму сядзеў я за працай у канцэлярыі, як раптоўна адчыніліся насьцеж дзьверы і да мяне ўляцеў вясёлы з задаволеным тварам старшыня райбюро Ю. П.

— Чуў?—кажа ён.

— Не, ня чуў, а ў чым справа?

— Ды як ня чуў, усё ідзе як па масьле, праз тыдзень выходзім у лягер з піонэрамі мястэчка... *Спэктакль даў 30 руб., саюзы 30...* і так, маем *60 рублёў,* на тыдзень можам організаваць лягер.

— А ці зможам падрыхтавацца за тыдзень?—занепакоіўся я.

— Ды падрыхтуемся, абы ўзяцца за справу.

І я, паддаючыся захапленьню старшыні, узяўся дапамагаць у падрыхтоўцы лягеру.

*У госьці* да піонэраў у тыя дні, калі піонэры былі ў лягеры, спакойна прыяжджаць нельга было. Вельмі хацелася паглядзець, як піонэры жывуць, як прывыкаюць да колектывізацыі, ці ня сварацца там паміж сабой. Гэта вымусіла нас, павадыроў атрадаў мястэчка, наведацца да піонэраў.

Нядзеля, 14 жніўня стаяў прыгожы сонечны дзень. Сонца кідала свае прадапошнія праменьні на сухую пыльную зямлю, хаваючыся за густым борам, калі мы на падводзе, нагружанай рознымі продуктамі для лягеру, пад'яжджалі да саўхоза Шып'яны (месца лягеру). Было хораша і на душы весела. Пад'яжджаем да самых Шып'ян. Гэта быўшы панскі маёнтак, цяпер у ім жывуць нашы піонэры. К нам насупраць адусюль ляцяць дзеці і сустракаюць жартамі і крыкамі, і мы ўжо на месцы. *На месцы.* „Насьпех" склікаем сход. Выносім пастанову выйці к кастру сёньня-ж. Быў цёплы летні вечар. Павячэраўшы і заставіўшы дзяжурных, мы накіраваліся к кастру. Здалёку паказаўся маленькі аганёк, які на вачох тут-жа вырас у вялізнае полымя. Мы разьмясьціліся. Агонь далёка асьвяціў цемень ночы і твары піонэраў, рассыпаючы іскры ва ўсе бакі.

Пачалі чытаць насьпех створаную вусную газэту. У ёй, як у люстры,—усе дробязі лягернага жыцьця. Пасьля ў клюбе вечар самадзейнасьці. Туды сабралася многа саўхоскай моладзі. Піонэры выступаюць, дэклямуюць, пяюць... У 11 гадзін спаць. Ніяк спакойна ня ўлежаць хлопцы. І толькі позна за поўнач усё над лягерам заціхае. *На заўтра.* Яшчэ ня было 3 гадзін раніцы, як піонэры ўжо шчабяталі і весела перакідваліся ўсьмешкамі. Спаць, вядома, ня было магчымасьці, і ўсякія ўгаворы яшчэ трохі паспаць не далі ніякіх станоўчых вынікаў. Дзень у лягеры, пачынаючы з ранішняй фізкультуры і канчаючы кастром, праходзіць жыва і весела. Ды і на грэх мясцовасьць ужо вельмі спрыяючая. Многа зелені, дрэў, пад бокам арэшнік, з якога хлопцы цэлы дзень ня вылазяць. У трох кроках рэчка, гіганы, клюб, словам—„лепшай мясцовасьці ва ўсей Беларусі быць ня можа", кажуць хлопцы. Днём дзеці працуюць на саўхоскім полі. Папрацуюць трохі, ды і „мацуюцца", затым: ізноў купацца, ізноў у арэшнік, ды гіганы і г. д. Толькі часамі рэзкія гукі сьвістка прарываюць іх заняткі і абвяшчаюць аб зборы.



**А. Кучар.**

# ню піонэраў мы выканалі

## Трывога

*З жыцьця піонэрскага лягеру Працасьветы.*

Узыходзіць сонца. Але піонэры яшчэ сьпяць. Сьпяць апошнюю ноч.

Раптам разносіцца па ўсяму лягеру гул бубна, а за ім басісты голас:

— Жыва паднімайся! Хутчэй строіцца!

Піонэры спрасонку крычаць:

— Я не памыўся.

— Я яшчэ рэчаў не сабраў.

— Хто мае чаравікі бачыў?

— Без размовы, час строіцца. Хутчэй!

Праз некалькі мінут, заспаныя і насьпех адзетыя, піонэры пастроіліся.

— Таварышы! Толькі што на наш лягер быў зроблены напад, у выніку чаго была ўзята наша палатка і сьцяг з мачты. Нам трэба зараз разлучыцца на тры атрады і рушыцца на „ворага“, які ад нас недалёка.

Зараз-жа былі вылучаны групы, якія ланцугом рушыліся на „ворага“. Наперад і ў бакі былі пасланы дазоры. Ціханька прабіраецца пярэдні дазор... Кусты... Нічога ня відаць... Труснула раптам галінка. Бух, бух,—пачуліся стрэлы. Дазор адскочыў.

— У атаку на „ворага“, ма-а-р-р-ш—пачулася каманда камандзіра 1-га атраду.

З крыкам „ура“ піонэры кінуліся ў атаку. „Вораг“ быў узят...

---

Пасьля гэтай гульні мы паехалі з лягеру ў горад.

Менск. **В. Б.**

## Як мы ўзмацнілі сваё здароўе.

Паветра, вада і сонца—лепшыя таварышы здароўя. Да іх дапамогі мы зьвярталіся ў часе сваёй летняй работы. Усю працу атраду мы праводзілі на вольным паветры. Часта хадзілі на экскурсіі, езьдзілі на лодках, рабілі ўсёй базай маёўку. Час прайшоў весела.

Атрад шмат чаго прарабіў дзеля папраўкі нашага здароўя. Усе піонэры за лета папраўіліся і адчуваюць сябе добра.

Гэта дасьць нам магчымасьць шчыра ўзяцца за вучобу і за працу ў атрадзе зімой.

Барысаў. **С. Цыркіна.**

## Усе засталіся задаволенымі

*(Рэчыца)*

Вечар. На беразе рэчкі ў дубовым гаі распрасьцёрся лягер піонэраў. Піонэры павячэралі і пяюць песьні.

Сьвісток—сыгнал спаць.

Усё сьціхае, толькі дзе-ні-дзе чуваць крыкі савы. Ня сьпяць толькі часавыя; узброеныя вінтоўкай і наганам яны вартуюць лягер.

Пачалася раніца, а за ёю і працоўны лягерны дзень. „Паварыхі“ гатовяць сьнеданьне. Усе астатнія сьпяшаюцца памыцца і пазаймацца фізкультурай.

Сьнеданьне гатова. У першую чаргу ядуць малодшыя, а ў другую—старэйшыя.

Пасьля сьнеданьня гутарка. Потым купацца. Далей вучымся страляць. Посьпехаў у стральбе дасяглі вялікіх. І так да абеду. Пасьля абеду „мёртвы час“.—Займаюцца, хто чым хоча.

Заходзіць сонца. Вячэраем. Потым разьмяшчаемся каля агню, пяём і г. д.

Такім чынам канчаецца другі дзень. Астатні час ідзе па пляну. На чацьверты дзень тэрмін лягеру скончыўся. Складзены палаткі, маемасьць піонэраў пакладзена на падводы і... пайшлі. Падышоўшы да гораду, строімся. Стройнымі шэрагамі падыходзім пад Ц.П. клюб, а адтуль дамоў. Лягерам усе засталіся задаволены.

**Кабуркеўскі.**
**Л. Шэйдліна і**
**М. Каплан.**

# Што мне даў атрад

У адзін з непагодлівых зімовых вечароў вышаў я з сястрой з хаты. Надвор'е было кепскае. Ішоў дождж з градам. Мы пайшлі і... спыніліся на вуліцы Энгельса перад высокім каменным домам, які быў асьветлен электрычным ліхтаром.

Сястра сказала, што гэта піонэрскі клюб будаўнікоў. Маё сэрца застукала часьцей... Мы ўвайшлі ў цёплы і сьветлы клюб, дзе весела шумелі і гутарылі. У клюбе я ўбачыў, што ў адным пакоі гуляюць у шашкі, у другім чытаюць газэты, у трэцім сядзяць піонэры—гутараць ды падымаюць рукі. Сястра мне сказала, што гэта зьвенавыя заняткі.

Потым мы зайшлі ў пакой, дзе з піонэрамі гутарыў нехта вялікі (як я даведаўся потым, гэта быў павадыр атраду). Гэта адбываўся савет атраду. На савеце атраду гаварылі і аб тым, каб мяне прынялі ў піонэры. Мяне прынялі і я скора здаў урачыстае абяцаньне.

З таго часу прайшло ўжо два гады. Сягоньня я аглянуўся навакол сябе і ўбачыў, што я стаю на высокім сьветлым беразе і бачу, як уцякае тая цемната, у якой я калісьці блукаў.

Два гады таму я толькі і чуў: „Сядзі дома, памаліся богу“ і г. д.

Я-ж, як той дурны, сядзеў дома ды маліўся. Аднаго разу сястра папыталася ў мяне, што я раблю дома.—Я расказаў. Яна засьмяялася, а я заплакаў. Сястра мяне пашкадавала і сказала, каб я прышоў да яе, дык яна мяне запіша ў піонэры.

Я пайшоў да яе і мы з ёю пайшлі ў піонэрскі клюб, дзе, як вы бачылі, мяне прынялі ў атрад.

Успомніўшы гэта, я пайшоў да сястры і сказаў: „Дзякую табе, сястра, што ты вывяла мяне з цемры—запісала ў атрад юных піонэраў. У атрадзе я весела праводзіў час і шмат чаму навучыўся“.

Е. М.-іак.

**Ад рэдакцыі:** Зьмяшчаючы гэты допіс піонэра Е. М., мы просім усіх іншых нашых дапісчыкаў выказацца на старонках сваёй часопісі аб тым, якую карысьць даў ім атрад, чаму добраму навучыў, і што яшчэ яны хацелі-б атрымаць у атрадзе.




# Беларускаму піанэру *)

Маё пажаданьне табе,
Дзіцячая газэта,
Бо ты спадабаешся мне
І я пасьвяшчаю табе во гэта.

* * *

Жадаю табе пашырацца
І ўсё больш падпішчыкаў мець,
З піонэрамі цясьней зьвязацца,
Бо заметкі аб гэтым табе ляцяць.

* * *

У іх піонэры друкуюць
Праз жыцьцё вясковых дзяцей
І прыгожыя малюнкі малююць,
Як выконваюцца піонэраў ідэі.

* * *

Ты-ж дапамагай ім у працы
На старонках часопісі сваёй
І табе толькі, ня йначай,
Як зацікавіць сабою дзяцей.

Піонэр **Крэмар Якаў.**

---

*) *Друкуецца без папраўак.*



# Нам трэба падцягнуцца

## Разваліўся атрад

У нашай вёсцы маецца атрад піонэраў, у якім налічваецца 30 асоб, але нашыя піонэры лічацца толькі на паперы піонэрамі, а на справе дык не. На зборы прыходзіць больш неорганізаваных дзяцей, чымся піонэраў. Законаў і звычаяў ня ведае ніводзін піонэр. З'організаваўся-ж наш атрад яшчэ ў 1924 годзе. Самі піонэры нічым не адрозьніваюцца ад неорганізаваных дзяцей. Лаюцца, кураць і г. д.

Павадыр атраду лянуецца, а памоцнік нічога ня здолее зрабіць. Райбюро Ю. П. зьвярні ўвагу на наш атрад!

Піонэр **Максім.**

(Аршанская акр. в. Даўгавічы)

## Ня рвуць самі, а кажуць другім

Як толькі парасьлі яблыкі, дык калі ні падойдзеш к якому-небудзь саду, там абавязкова піонэр. Яблакаў сам ня рве, але падгаварвае якога-небудзь неорганізаванага. Той пойдзе і нарве яму яблыкаў колькі ён хоча. За гэта піонэр яму абяцае, што яго хутчэй прымуць у атрад, бо ён будзе выказвацца „за“.

Вось як нашы піонэры прыцягваюць дзяцей неорганізаваных у атрад. Савет адраду на гэта не зьвяртае ўвагі. Ці гэта добра?

**З. Бяроза і М. Асака.**

(Лукомль, Аршаншчына).

## „Добра робіць“

Наш павадыр зьвяна паказвае піонэрам „добры“ прыклад. Курыць, лаецца і г. д. Працы ніякай не вядзе. Нават яшчэ ніводнага разу заняткаў зьвяна не зрабіў. Курыць не пакідае ды яшчэ што ён курыць—недакуркі зьбірае на дарогах. Гэта робіць павадыр зьвяна 71-га атраду з вёскі Танежычы Максім Крупка.

**З. Студзень.**

## Каго прымаем у атрады.

Раней наш атрад налічваў у сваім складзе 47 піонэраў. Праца ў атрадзе як раней, так і цяпер кепская.

Якія-ж гэтаму прычыны? Прычыны вось якія. Як 40-ы атрад, так і 14-ы маюць у сваім складзе такіх піонэраў, якія па свайму соцыяльнаму становішчу ў ЛКСМ не падходзяць.

Ведаючы тое, што іх у комсамол ня прымуць, яны ня столькі працавалі ў атрадзе, колькі падрывалі працу атраду: хуліганілі сярод неорганізаваных дзяцей і інш. Цяпер 40-вы атрад налічвае толькі 14 піонэраў; у 14-м атрадзе гэта зьявішча назіраецца таксама.

Мая думка такая, што атрадам 40-му і 14-му і наогул местачковым атрадам трэба зьвярнуць увагу на тое, што пры прыёме ў піонэр-атрад неабходна прымаць пад увагу соцыяльнае становішча, мачаго ён уступае ў атрад і г. д. Тады можа ня будзе таго, што ёсьць у 40 і 14-м атрадах.

**А. Н.**

М-ка Капыль.

**Ад рэдакцыі.** Справа ня ў тым, што трэба абавязкова прымаць дзяцей бяднейшага насельніцтва, а ў тым, што атрад павінен сваячасова заўважваць памылкі і хуліганствы асобных піонэраў і выключаць іх з організацыі, калі не паддаюцца ўплыву і выхаваньню атраду. Наша організацыя мае свой статут і сваю пэўную дысцыпліну, якой і трэба прытрымлівацца ў такіх выпадках.






*(Цікавае з жыцьця мурашак).*

### Народ

На зямлі налічваецца больш за 1200 пляменьняў мурашак, і ўсе яны вызначаюцца розумам, працавітасьцю і сілай. Перагаварваюцца яны сваімі вусікамі. Абараняюцца „квасам“, які вылучаюць з свайго жывоціка. Каб чалавек меў такую сілу, як мурашка, ён мог-бы ўзьнесьці на плячох карову на дзесяты паверх дому.

### Дзяржаўны лад

Мурашкі складаюць рэспубліку працоўных. Няма ў іх ні царыцы, ні трутняў, як у пчол. Жывуць у гарадох з вуліцамі, шматпавярховымі дамамі і гаспадарскімі памяшканьнямі. Усе яны дружна працуюць і жывуць камунай.



*Мурашкі земляробы.*

### Выхаваньне

Тое, што мы называем „яечкамі“, сапраўды ёсьць маленькія дзеці, чарвячкі. Яны выхоўваюцца ў „дзіцячых дамох“. Спэцыяльныя нянькі даглядаюць іх, сочаць за іх здароўем, выносяць на сонца.

### Ральніцтва

Ёсьць мурашкі (у Паўднёвай Амэрыцы), якія займаюцца зямляробствам. Яны сеюць сваё асобнае збожжа, нібы жыта. Дзеля гэтага перад мурашнікам яны ачышчаюць, полюць і раўнаюць поле, а перад дажджлівай парой выносяць з сваіх кладовак насеньне і раскідваюць яго па зямлі. Даглядаюць яны поле і далей, пакуль збажына іх пасьпее. Калі прыдзе пара жаць, выходзяць жняцы, адгрызаюць калосьсе і кідаюць іх „малатарнікам“. Тыя вылушчываюць зерне, а насільшчыкі зносяць іх у каморы. Каб збожжа не сапсавалася, яны ад часу да часу выносяць яго сушыць на сонцы. Ні ў якім разе яны не зьядуць увесь ураджай і абавязкова пакідаюць частку на насеньне.

### Гародніцтва

Там-жа жывуць мурашкі, якія разводзяць на гародах грыбы. Дзеля таго, што грыбы растуць толькі на гнаі, мурашкі робяць з сырога лісьця камячкі, прыціскаюць іх шчыльна адзін да аднаго і, такім чынам, робяць роўныя, доўгія градкі. Потым прыносяць грыбныя валокны, праз якія грыб размнажаецца (грыбніца, або міцэлі) і старанна саджаюць іх на градкі. Увесь час даглядаюць, полюць градкі і

зьнішчаюць цьвіль. Цярпліва чакаюць, пакуль грыбы вырастуць і тады ядуць іх. Частку пакідаюць на насеньне.

### Гадоўля жывёлы

Гэтым займаюцца нават нашыя звычайныя мурашкі. Яны трымаюць „кароў“, якія даюць ім „малако“. Каровы гэтыя ёсьць маленькія бяскрылыя казюлькі, так званыя „травяныя вошы“. Каб падаіць карову, муравей казытае яе сваімі вусікамі, пакуль яна ня выпусьціць салодкі сок. Гэтых кароў мурашкі пасуць на лісьцях расьлінаў, або трымаюць іх у „хлявох“ у сябе ў марашніку.

Маюць яны і „коняй“. Гэта так званыя „дрэўныя клапы“. Яны ў некалькі разоў большыя за мурашак, але таксама перавозяць цяжары, як нам коні. Толькі калаў мурашкі яшчэ ня ўжываюць.

Лічынкі (вусьні) жучка „бронзаўкі“ падтрымліваюць у мурашніку чыстату. Яны зьядаюць розную гніль, і дзеля гэтага мурашкі трымаюць іх у сябе.

### Грамадзянская вайна

На жаль, між мурашкамі нярэдка бываюць войны.

Вось рухаецца па дарозе войска горных мурашак. Наперадзе і па баках разьведчыкі. Яны адбягаюць, вынюхваюць, выгледжваюць, і зноў варочаюцца. Такім чынам падышлі да гораду чырвоных мурашак. Але і там разьведка не драмала. Перад мурашкамі ўжо стаяла войска чырвоных і чакала ворага.

Пачалася бойка. Усе зьмяшаліся ў кучу. Ворагі адгрызалі адзін другому галовы, ногі, вусікі. Некаторыя, каб ня бавіцца, наўмысьля адрывалі толькі ногі: усё роўна вораг ужо ня можа ваяваць. Востры пах пайшоў ад „мурашчынага квасу“. А за войскам спакойна стаялі „рэзэрвныя атрады“ і наглядалі за бойкай, чакаючы сваёй чаргі. Вось становішча чорных пагоршылася, і ў бойку рушыліся сьвежыя сілы. Тады і чырвоныя пусьцілі свае рэзэрвы.

Але вось ззаду чырвоных пачалася трывога: гэта атрад чорных напаў з тылу і пачаў рабаваць мурашнік. Чырвоным прышлося пусьціць у ход апошнія рэзэрвы, якія і адбілі нападаўшых. Праз некалькі хвілін выявілася, што чырвоныя перамагаюць. Яшчэ ўсілак,— і чорныя пабеглі назад. Па дарозе яны сустрэлі свой атрад, які ішоў ім на дапамогу, але разьбітае войска ўжо не магло спыніцца, і ўсе разам пабеглі назад. Чырвоныя чамусьці ня гналіся. Яны пачалі прыбіраць сваіх параненых, адносілі іх у бок, даглядалі.

Цяжка параненых ворагаў дабівалі, а лёгка параненых забіралі ў палон і накіроўвалі ў мурашнік, дзе ўжо было шмат здаровых палонных, узятых у час бойкі. Яны павінны былі застацца ў мурашніку і працаваць разам з чырвонымі. Да самага вечара працавалі мурашкі, пакуль упарадкавалі поле бойкі. Я. М.



*Мурашкі даглядаюць сваю пствёлу.*

# Забаўная заолёгія *)

## Дождж з жабамі

Летам пасьля вялікага ліўня на садовых дарожках зьяўляецца мноства маленькіх жабянят. Гэта заўсёды бываюць у нас маладыя зялёныя жабы. У народзе існуе пераконаньне, што гэтыя жабяняты падаюць з неба з дажджом. Але гэтае пераконаньне памылковае. Жабы звычайна днём, у ясную пагоду, хаваюцца пад камянямі, дошкамі і ў норках. У час вялікага дажджу ўсе гэтыя спрыяючыя месцы затапляюцца і жабам паняволі прыходзіцца выбірацца адтуль.

Але паданьне жаб і другіх жывёл разам з дажджом ня так непраўдападобна, як гэта можа паказацца. Вядома, што на моры часта бываюць так званыя віхраслупы, калі паўзучыя хмары прыцягаюць к сабе слуп вады, і гэты слуп нясецца па паверхні мора, можа дайці нават да берагу і там раскідацца. Разам з вадой прыцягваюцца і марскія жывёлінкі, якія падаюць уніз у той час, калі рассыпаецца вадзяны слуп. Віхры могуць быць і на сухазем'і, у такім выпадку яны прыцягаюць пясок, а разам з ім і сухаземных жывёлін. У Ангельшчыне ў час аднэй вялізарнай буры раптам пасыпаліся зьверху селядцы і крабы [2]). У Кермарне ў 1814 г. пайшоў дождж з шчупакоў, акунёў і калюшак. Бура, якая адбылася ў 1890 г. ў Швэйцарыі, у мясцовасьці Нэўшатэль, ішла дажджом з жывых вусьняў. Быў услаы цэлы ўзгорак на працягу некалькіх міль жывёламі. Апавядаюць, што ў час вельмі вялікай завірухі ў паветры ляцелі некалькі кошак, якія сваім гвалтам пужалі мясцовае насельніцтва.

## Ці дыхае куранё, якое знаходзіцца ў яйцы

Каб вырашыць гэтае пытаньне, палажэце пад курыцу разам з звычайнымі яйкамі некалькі яек, абмазаных кругом палітураю. Праз тры тыдні вы перакаиаецеся ў тым, што з абмазаных яек кураняты ня выводзяцца. Разьбіўшы гэтае яйцо, вы ўбачыце, што там нават і кураняці няма. Завад у такіх яйках пачынае разьвівацца, але хутка гіне ад недахопу паветры. Зародку таксама патрэбен тлен, як і жывым птушкам; другімі словамі, ён дыша, і дыханьне гэтае спачатку адбываецца той паветрай, якая знаходзіцца ў пустаце тупога канца кожнага яйца. Пасьля скарыстаньня гэтае паветры дыханьне адбываецца за лік паветры, якая ідзе ў яйцо праз лушпіну. Лушпіна яйца складаецца з дробных кусочкаў, зьлепленых разам. Паміж гэтымі кусочкамі застаюцца дзірачкі, якіх звычайна вокам ня ўбачыш. Праз гэтыя дзірачкі паветра ідзе ўнутро яйца. Калі яйцо вы абмажаце глянцам, то дзірачкі лушпіны замазваюцца, і дыханьне зародка становіцца немажлівым; ён памірае. Па гэтай прычыне ў каробках, у якіх выводзяць куранят бяз курыцы, заўсёды прырабліваюць душнікі для ачысткі паветры.

## Чаму вочы ў кошкі сьвецяцца?

Існуе многа жывёл, якія маюць здольнасьць вылучаць фасфарытны сьвет. Сьвячэньне мора залежыць ад прысутнасьці такіх жывёл. Але вока кошкі ня можа вылучаць сьвету. Сьвячэньне яе вачэй залежыць ад таго, што ў іх знаходзіцца плёнка, адыгрываючая ролю рэфлектара. Як люстра ў ліхтарнях, так яна адбівае падаючы ў вока прамень сьвету. Так што ў поўнай цемнаце вочы кошкі ня могуць сьвяціцца. Лепш усяго відно гэтае сьвячэньне, калі кошку пасадзіць у цёмны пакой і калі з другога пакою пападаюць прамяньні ад лямпы ў вочы кошкі.

---

[1]) Навука аб жывёлах.

[2]) Морскія ракі.

# ШТО ЧЫТАЦЬ

**З. Біглец.—Як дзеці комуну рабілі.** Пераклад з украінскае мовы. Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі.

Гэтае апавяданьне ўваскрашае перад вачыма чытача жудасныя малюнкі нядаўняга мінулага.

У Беларусі ў той час сьвістаў бізун панскай Польшчы, на Украіне—„гаспадарылі“ Скарападзкі, Махно і інш. Цяжка жылося бедным людзям пад уладай гэтых крывапійцаў, бязжаласных душыцеляў вольнага слова, дзеяньня і думкі. Людзей забівалі тады усё роўна як мух, бяз усялякай прычыны, ня лічачыся, што гэта чалавек, што ён хоча жыць.

Гэтакую бязьлітасную помсту абвясьціла буржуазія ўсяго сьвету першым краінам Саветаў.

У апавяданьні **Біглеца** закрануты толькі адзін бок жудаснага малюнка з мінулага жыцьця—гэта зьдзекі над бязьвіннымі дзяцьмі. І за што? За тое, што яны наладзілі сваю дзіцячую гульню ў „комуну“.

Яны, дзеці, чулі ад старэйшых шмат розных гутарак аб комуне, аб тым, як будуць жыць і працаваць людзі ў комуне. Вядомая рэч, што гэта дзеці лёгка пераняли і ў адзін з цёплых летніх дзён парашылі раней за сваіх бацькоў наладзіць такую комуну. Усім гуртам забіраюцца яны далей ад вёскі за густыя кусты, дзе неўзабаве адчынілася сапраўдная комуна: адзін сабе арэ палачкай, другі сее, дзяўчаткі жнуць, полюць...

Пасьля супольны абед. Усё робіцца шчыра, быццам і ня гульня.

Але вось адкуль ні вазьміся на дзяцей, як чарада драпежных зьвяроў, налятаюць паны. Яны агнём і мячом зьнішчалі ўсё, асабліва комуністычнае. І досыць было пачуць ім ад дзяцей слова комуна, як бязьвінныя малюткі апынуліся ў кіпдзюрах лютых зьвяроў-паноў.

Не малую кару панесьлі дзеці і іх бацькі за гульню ў „комуну“.

Апавяданьне досыць добра ілюстравана. Чытаецца лёгка, разьлічана на дзяцей сярэдняга ўзросту. Кніжка заслугоўвае таго, каб быць ва ўсіх дзіцячых бібліотэках і чытальнях. Прачытаць яе павінны ўсе дзеці. **Чытач.**



## Паштовая скрынка.

**Ельніку, Ю.** Байка „На каляды“ перададзена ў рэдакцыю „Бел. Вёска“.

**Дудзе Аркадзю.** Верш „Раніца“ перададзены ў „Чырвоны Сейбіт“. Іншыя вершы да друку слабаватыя. Зварачай больш увагі на зьмест. Вершы апісальна-лірычныя цікавы толькі тады, калі б'юць яны на арыгінальнасьць у мастацтве. Гэтага-ж у цябе пакуль што з надасланых вершаў няма. Таму раім табе больш цікавіцца зьместам і старацца пісаць у гэтым напрамку (спроба, праўда слабая яшчэ, увесьці зьмест у свае вершы адчуваецца ў „Раніцы“).

**Крэмеру.** Вершы, брацішка, ты пішаш слабыя яшчэ. Адзін з іх пра часопісь зьмяшчаем. Надалей старайся пісаць допісы. Вершы табе пакуль што не ўдаюцца: ты не аўладаў прыёмамі і спосабамі пісаньня.

**Фрумкісу, А.** Допіс пра экскурсію для часопісі асаблівай цікавасьці не прадстаўляе. Напісаны суха, дрэнна. Яркія моманты ў экскурсіі адсутнічаюць.

**Студзень. З.** Допіс „Рэорганізацыя атраду“ ня пойдзе. Нічога цікавага ў ім няма для чытачоў. Зьмясьцеце лепш у сваёй насьценгазэце.

**Валодзіну. В.** Дзяткорам часопісі цябе залічваем. Допіс аб аглядзе атрадаў друкавацца ня будзе, бо ў ім няма вынікаў агляду. Напішаш лепш пасьля, калі апошнія будуць вядомы.

**Таўбіну.** З апошніх тваіх вершаў адзін („У навуку“) перададзены ў „Чырвоную Зьмену“. Другі верш вельмі сумны па сваіх мотывах і зьяўляецца, такім чынам, простым перапевам мотываў старых пісьменьнікаў аб восені. Падобных выпадкаў вельмі шмат спатыкаецца сярод пачынаючых пісаць. Але-ж гэта нельга ставіць ім у заслугу, трэба старацца нашу восень перадаць пасвойму, ухіліцца гэтай зьбітай літаратурнай традыцыі.




## Як укінуць монэту ў бутэльку

Сагнеце запалку так, каб яна трошкі надламалася, але не разламалася зусім на дзьве часткі, і палажэце яе на рыльца бутэлькі. Зьверху палажэце лёгкую монэту (напр., грыўню). Як укінуць гэту



монэту ў бутэльку, не дакранаючыся ні да запалкі, ні да монэты, ні да бутэлькі?

Робіцца гэта проста. Апусьцеце палец у ваду, а пасьля некалькі капель вады скіньце з пальца на запалку ў тым месцы, дзе яна зламана. Праз некаторы час валокны запалкі набрыняюць ад вады і ад гэтага пачнуць выпроствацца. Канцы запалкі рассунуцца і монэта сама ўпадзе ў бутэльку.

## Загадка

Ці то хата  
Ці палата—яны тут.  
На гарышчах,  
Па куцішчах,—  
Там жывуць.  
Па каморах,  
Па каморах,  
Дый бяз гора  
Ціха сьпяць,  
Ці у лесе на арэсе  
І там сядзяць.  
Усюды ставяць  
Раскладаюць  
Варстакі,  
Ткуць і шыюць  
Разьмяраюць  
Рушнікі.  
Рушнікі тыя,—  
Ой, дзіва,—  
Нібы цуд,  
Як шаўковыя,  
Пуховыя  
Растуць.  
На іх паселі,  
Як на пасьцелі,  
Ткачы ўсе,  
Запрашаюць  
І прымаюць  
Тут гасьцей:  
Камарыху  
Кабзарыху,  
Камара,  
Шустру мушку  
Палятушку,  
Авадня.  
Ой вы, дзеткі,  
Вам задача  
Разгадаць,  
Пра ткачоў тых  
Пузачоў  
Нам расказаць.

### Як выбіць шашку.

Палажэце на дошцы або проста на стале шашкі ў слупок. Як выбіць адну шашку з сярэдзіны слупка, каб верхнія шашкі ня скінуліся, а засталіся на месцы?

Трэба тонкай лінейкай борзда і моцна выцяць па любой шашцы ў сярэдзіне слупка; яна выляціць, але рэшта шашак не рассыплецца. Тлумачыцца гэты вопыт уласьцівасьцю рэчаў захоўваць да вядомых межаў свой пачатковы стан.



### Гульня ў цырк.

Усе ўдзельнікі гульні садзяцца колам. Кожнаму з удзельнікаў даецца назва якога-небудзь зьвера, жывёлы ці птушкі (напр., леў, конь, перапёлка, певень). Усе гэтыя жывёлы—драсіраваныя (вучаныя, муштраваныя) і калі драсіроўшчык (той, хто водзіць) назаве якую-небудзь жывёлу ці птушку, дык узяўшы сабе гэту назву павінен крычаць голасам свае жывёлы (напр., леў рыкае, конь іржэ, перапёлка крычыць „спаць пара" і г. д.). Калі-ж драсіроўшчык крыкне „сава", дык усе павінны схаваць рукі назад і трымаць так, пакуль ён ня крыкне назву другой жывёлы. Той, хто не пасьпее зрабіць гэтага, плаціць фант (робіць тое, што яму прысудзяць). Калі-ж драсіроўшчык скажа „увесь цырк", дык кожны крычыць пасвойму і хутка мяняе месца. Той, хто застаецца бяз месца, становіцца драсіроўшчыкам.

# Як трэба жыць—каб здаровым быць

Каб больш сонца, ды паветра
Скарыстаць ты мог за лета,
Дык для мілых тых гасьцей
Адчыняй вакно часьцей.

Дактары нам скрозь даводзяць,
Што хвароба з брудам ходзіць,
Дык парада дзеткам мілым:
Мыйце рукі чыста з мылам.

Асьцярога не пашкодзіць,
А з нядбайствам пошасьць ходзіць,—
Вось вы, дзеткі, не павінны
Есьці й піць з аднэй судзіны.

Ня вучыся, брат, курыць...
Што тут доўга гаварыць,—
Сам-жа чуў ты ад людзей:
Дым—хвароба для людзей.
За курэцкія грахі
Будзеш ты—ак-хі, ак-хі...

Каб ня мець ліхой бяды
Ад заразы нечаканай,



*Дым—хвароба для людзей.*

Дык ня пі сырой вады—
Запасайся гатаванай.

Сьліна з пылам той-жа бруд,—
Вось і правіла вам тут:
Чыстату каб захаваць,—
На падлогу не пляваць.

Каб ня мець дарэмнай скрухі,
Каб у рот ня лезьлі мухі,
Не разносілі заразу,—
Як падсеў—прымай адразу,
І яда няхай накрыта—
Не рабі з стала карыта.

Май ты гэта за закон—
Ня сьлінь пальца языком:

Рот на тое, каб ім есьці,
Не заразу ў яго несьці.

Каб ня мець хваробы лішняй,—
Ґрушы, яблыкі і вішні
Заўсягды перад ядой
Мый ты чыстаю вадой.



*Кракадзіл рот свой птушкам разьзяўляе—зубы чысьціць дазваляе.*

Зелень міла для вачэй,
З ёю й дышацца лягчэй,
Дык шануйце-ж зелень, дзеці,
Дрэўцы самі вы садзеце.

Кракадзіл і то ён часам,
Як паласуецца мясам,
Рот свой птушкам разяўляе—
Зубы чысьціць дазваляе;
Ну, а ты, мой браце любы.
Сам павінен чысьціць зубы.

Слухай таты, слухай мамы,
Гразі ў хату за нагамі
Не нясі, а на двары
Выцірай каля дзьвярэй.

Вазьмі шчотку з парашком,
Вычысьць зубы перад сном,
Вымый ногі, як Сымон,
Дык салодкі будзе сон.




*Вазьмі шчотку з парашком, вычысьць зубы перад сном.*

Каб ты сьвеж быў, ды здароў,
Каб гуляла ў жылах кроў,
Каб ня знаў нуды праклятай—
Спаць лажыся а дзевятай.

**Крапіва.**

Менск, 1-ая дзярж. друкарня. Заказ № 2987. Галоўлітбел № 26109